*Пролетары усіх краеў, злучайцеся!*

# МАЛАДНЯК КАЛІНІШЧЫНЫ

Орган Калінінскага Акруговага Комітэту ЛКСМБ і
Усебеларускага аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк"

23 лістапада 1924 г. АДНАДНЕЎКА №1 23 лістапада 1924 г.

## Беларусь! і ты комсамолія! Маладняк-комсамолец твой сын!



## Чаму мы пішам па беларуску.

Хто-ж ня зваў раней беларускую мову, беларускую культуру—мужыцкай. Палітыка вялікадзяржаўнага шавінізму была накіравана да таго каб зьнішчыць наогул усё беларускае. Дзе ласкаю, дзе сілаю царскі закон накіроўваў свае удары да таго, каб беларус адцураўся свайго паходжэньня, свае мовы І вынікі гэтая палітыка дала. Заможные з беларусаў здрадзілі і пайшлі ў бок да тых, хто больш плаціць за іх здраду. І толькі ў сваіх гушчах сам народ захаваў, разьвіваў сваю культуру, час ад часу выдзьвігая з сябе здольных і вялікіх змагароў. Гісторыя Беларусі мільгаціць іх імёнамі.

Да гэтага часу памылкова пашыран такі погляд, што беларус вельмі пакорны, што ён ціха маўчаў у адказ на тыя раны, што нанасіў яму царскі ўрад Але навуковыя дасьледы асабліва апошняга часу сьведчаць саўсім іншае. Яны кажуць аб тым, што беларус-бядняк упартым гераізмам, сапраўды цудовым гераізмам змагаўся за сваё вызваленьне з пад расійскага чыноўніка і польскага пана. Вось і ў гэты час, калі пішуцца гэтыя радкі, мы ведаем, знайдзены гістарычныя паперы, якія апавядаюць аб тым, як дзясяткамі і соткамі беларусы уцякалі з Сібіры, куды іх ссылаў русіфакатарскі шавінізм. Праўда, дасьледы гэтыя кажуць і аб тым, што амаль ні водзін з уцякаўшых не дасягнуў мэты, не прабіўся на Беларусь, бо па шляху да яе згінулі, але самы гэты факт вельмі яскравы.

Далей. што гаворыць нам агульнае паўстаньне ў Заходняй Беларусі у гэты час. Яны кажуць, што бедняцкая Беларусь, ніколі ня кіне свайго змаганьня, пакуль не вызваліцца ад пана і не стане Савецкай Беларусьсю.

Дык вось гэтыя кароткія прыклады гавораць аб тым, што гісторыя нашага краю—гісторыя упартай барацьбы. Барацьбы сацыяльнай па першаму і нацыянальнай—па другому.

Але сапраўдная барацьба за сваё вызваленьне, сваю мову вялася выключна сермяжнаю, лапцюжнаю Беларусьсю

Вось чаму усё, што ішло ат гэтай Беларусі і атрымала назву „мужыцкае".

Вось адкуль гэтае слова. Рух двайнога вызваленьня расейскім чыноўнікам і польскім панам быу ахрышчаны, як мужыцкі рух.

Вось чаму таварышы мы ня скардзімся, калі нашу культуру называюць „мужыцкаю культураю"—мы толькі тлумачым хто гэтак яе называе.

Улада Саветаў вызваліла Беларусь.

У рабоча селянскай Дзяржавы няма мужыцкіх і панскіх культур. У ёй ўсе культуры аднальковыя.

Вось чаму і Беларусь па закону Савецкае Улады мае магчымасьць развіцьця сваёй культуры нараўне з іншай.

І нават болей Савецкая Улада яшчэ дапамагае разьвіцьцю гэтай культуры, бо вядома ж усякаму селяніну трэба удобрыць тую зямлю, з якой выцягнулі столькі жывых сіл.

Вось таму таварышы што гэта наша мова, што мы ня ведаем „лепшай другой", таму што у Савецкай стране няма панскіх і мужыцкіх культур, мы і разьвіваем беларускую культуру.

*Анатолі Вольны.*

# ДЗЬВЕ БЕЛАРУСІ.

Шырокая Беларусь—сягоньня. Межы яе Менск—Віцебск—Магілеў—Клімавічы.

Тут мы бачым шырокі росквіт беларускае культуры і культуру іншых нацый, якія заселяюць Беларусь

Тут мы бачім беларускія газеты, кнігі, школы—туг мы бачым беларускае жыцьцё.

Паглыбіўшыся ў сялянскія гушчы мы ўгледзім і тут нацыянальныя сельскія рады; для карысьці саміх-жа сялян мы бачым, як ажыцьцеўліваецца новае землябудаўніцтва. Кожны мае права выказвацца на сваёй роднай мове, пяяць сваю родную песьню. Гэта ў Савецкай Беларусі, гэта Савецкая Беларусь

Другая частка Беларусі—Заходняя Беларусь, якая находзіцца пад пятою польскага пана, ксяндза, абшарніка

Яскравым малюнкам для нас, зьяўляецца такі факт: адзін Маршалак сказаў на сходзе вяльможных паноў так:—„мы цяпер улада і працу павядзем так, каб днём з агнём ніводнага беларуса не знайсьці“.

Гэта і робіцца.

На беларускія землі пасылаюцца асаднікі, якія паланізуюць беларускія вёскі.

Сяляне на сваіх сходах пастанаўляюць адчыніць беларускаю школу, а панская ўлада забараняе. Беларускае слова прыгнечываецца, звальняюцца з пасады тыя, хто дзе скажа беларускае слова.

Беларускае настаўніцтва без працы. Наогул нацыянальнаму разьвіцьцю, якое сярод працоўных мас Заходняй Беларусі пашыраецца бурлівым размахам, шкодзіць бізун вяльможнага польскага пана.

Праўда, панская Польша выдала так званы „языковы закон“,—гэта каб даць магчымасьць разьвіцьцю нацыянальных моваў, і Віленскую гімназію ўзяла на дзяржаўнае ўтрыманьне. Але тут-жа, у гэтай-жа гімназіі забараніла чытаць лекцыі па гісторыі і географіі Беларусі і чытаць новую беларускаю літаратуру.

Працоўныя Заходняй Беларусі ўбачылі, што гэты нібы-то „закон“, ня што іншае, як пусьціць у вочы туман.

Якое-ж цяпер там становішча, ці ёсьць сягоньня, якая небудзь беларуская газэта?

З панскім бізуном, з панска-ксяндзоўскім укладам жыцьця барацьбу вядуць. Змагаюцца, працуючы ў падпольлі, комсамольцы. Ня так даўно, мы добра помнім, як быў растраляны сялянскі хлапец—комсамолец Сенчук. Калі камсамольцы ў Вільні выйшлі сьвяткаваць міжнародны юнацкі дзень, дык на Замкавай гары шмат іх было арыштавана і замучана ў турмах. А шмат і шмат чаго мы і зусім няведаем

У панскай Польшчы ёсьць Сойм, у якія і сяляне „выбералі" дэпутатаў.

Беларускія дэпутаты, ня так даўно было апавешчана, былі зьбіты здраднікамі і толькі за іх заступіліся комсамольцы.

Каб сказаць пэўна, якая выходзе цяпер беларуская газэта ў Заходняй Беларусі—нельга, бо гэтыя газэты польскім урадам конфіскуюцца. Апошняя і самая здаровая па думцы газэта, гэта „Сялянская Праўда". Каб вам яшчэ больш было яскрава, я пералічу некалькі назваў тых газэт, якія сканфіскавалі „польскія міністры":

„Наша будучына", некалькі „аднядневак", „Беларускі Сьцяг", „Наш Сьцяг", «Сын Беларуса», „Голас Беларуса", „Беларуская Праўда" і шмат, шмат іншых.

Жыцьцё сялянства неўмагату. Польскія жандары учыняюць нячувалыя зьдзекі над беднатой, грабяць, паляць вёскі.

Беларуская сялянская бедната ўцякае. Хаваецца, перабягае граніцу, мкнецца, ідзе ў Савецкаю Беларусь.

Моладзь Заходняй Беларусі арганізовываецца ў партызанскія атрады, вядзе самую ўпартую барацьбу з паншчынай. Гэтая партызанская барацьба, гэтыя партызанскія атрады—вылюцца ў народнае паўстаньне.

Імкненьне злучыцца з Савецкай Беларусьсю ў працоўных Заходняй Беларусі—вялікае. Час гэты блізка.

З грудзей працоўных вырываецца крык:

> Хлопцы, годзе паноў панаваньне,
> Больш цярпець, дык і сіл няма.

*А. Александровіч.*

## Комсамольская нота.

Той ньюпор, што ў небе часта так грахоча,
Што вядзе грымучы з сінявою говар.
Гэта толькі першы дэлегат рабочы,
З нотай Комсамолу к сонечным прасторам.

Нота наша кажа: „Сонца, мы прымусім,
Мы цябе прымусім печы нам паліць!
Наша воля—крэмень, наша сіла—самі мы!
У сто мільлёнаў ухнем—пойдзеш нам служыць!

Ведай, сябар сонца—узрастае сіла,
Што агорне песьняй сіні небасвод,
Фабрыку збудуе з сонечных праменьняў...
Сіле той сягоньня—восемнаццаць год!"

*Анатолі Вольны.*

# Нацыянальнае пытаньне і ЛКСМБ.

Дыктатура рабочае клясы упяршыню у гісторыі дала магчымасьць правілова разьвязаць нацыянальнае пытаньне у ваусю яго шырыню. Савецкі лад утварае добрыя умовы для працы у гэтым напрамку. Але за працу узялося ящчэ вельмі мала, прауда відавочка, штому а пошния часы есьць імкненьне да прац у гэтым напрамку і асабливая ЛКСМБ.

Нашы Клімавіцкія умовы значка пашырыліся і узманяюцца з апошняга раёніраваньня. Апошняе адміністратыунзе фармаваньне паставіла працу усіх галін на належны грунт, а нацыянальнае так, як ні аднэй Акрузе усяе Беларусь не стаіць*)

Мы вельмі ашукаліся-б каб падумалі, што, калі есьць рэзалюцыі Камуністычнай партыі і адміністрацыйных ворганау, то нацпытаньне ужо разьвязана. Не рэзалюцыямі разьвязаецца усякае пытаньне, а практычнымі мерапрыемствамі Ня трэба хавацца, што сярод многіх адпаведных працоунікоу пад уплывам самаздавальненьня (а яно бывае нават сярод камуністых) хаваецца вялікадзяржауны нацыяналізм, ен, як бы, дрэмлючы і нялюбіць, каб яго трывожылі.

Многія за нацпытаньне няхочуць брацца, а лічуць што яго можна пераскочыць, ведама памылка.

Справа накульгвае, пакуль яна ня стане балючай і за яе ня возьмуцца з усіх бакоу і з усіх канцоу. Гэты момант у Калінінскай Акрузе

ужо настау передавікамі, як і усюды стау ЛКСМБ Сур'ёзнае правядзеньне нацыянальнай палітыкі у сваіх шэрагах пачау нядауна, ад сягодняшняга дню можна пералічыць дні на пальцах. Десягненьняу ящчэ няма, бо гэта справа патрабуе значнага часу. Нацыянальная палітыка не павінна праводзіцца у комсамоле павярхоуна, а больш таго не павінна супыняцца на сухіх, казенных формах, а павінна арганічна прапітаць усю штодзенную працу комсамольцам, такое штодзеннае ізжываньне у працы и прыватным жыцьці беларускае мове, дапасаваньне апарату правільнае разьвіцьце юнацкага друку, падрыхтоука і выдзяленьне кадру беларускага актыву, актыу патрэбен і на другія галіны працы іншых палітычных праблемау, але і нацыянальнае пытаньне павінна заняць не апошняе мейсца.

Да апошніх часоу некаторыя працауикі карыстаюцца беларускай мовай у прыватных гутарках, а дзелавыя размаворы на расейскай мове. Усе гэта гаворыць аб нейкай недаверчывасьці да беларускай мовы, акая школзіць правіловаму правядзеньню нац. палітыкі у межах хутчэйшага ужываньня беларускае мовы.

Камсамол ужо пачау і павінен пераламаць сябе у гэтым, а гэта і выпауняць пастанову ЦК КПБ, якая кажа:

„Дзеля умацаваньня практык, ужываньня беларускае мовы зрабіць абавязковым, каб кожны член партыі і комсамолу усюды ужывау калі ведае, а калі ня ведае, дык павінен вывучыцца і карыстацца“.

Кажучы аб працы Комсамолу у галіне нацыянальнай палітыкі, нельга сказаць аб Комсамольскім усебеларускім аб'яднаньні пісьменьнікау і паэтау „Маладняк“, якое зьявілася у нашых беларускіх кутках акругі і разам выпушчаем сягодняшні н у м а р г а з э т ы. Вялікую ролю і значеньне сяброу „Маладняк у глухія вескі адзначаць ня трэба, гэта адзначыцца на жыцьцевым шляху і выніках чарговае працы у белар. справе, а яны будуць неузабаве.

Ня трэба забываць юнацкага руху—піанэрау. Гэта дзеці нашага Савецкага выхаваньня, гэта цьвердыя і моцныя падставы над Савецкі будынак., трэба і сюды закінуць зярне нацыянальнай палітыкі.

Ставячы пытаньне беларусізацыі на усю вялічыну яго, то трэба аддаць належную увагу працы сярод нацыянальных меньшасьцяу: жыдоускай, польскай і латышскай. Нельга брацца за адно, а пакідаць другое, трэба роуна паднімаць культурны узровень усіх нацый, каб дабіцца адзінства між усіх нацый.

*Аніхоускі.*

*) Глядзі С. Б. ад 18/X № 242 артыкул: „Умкненьні да беларускае культуры“.

# МАЛАДНЯК

Тэлеграма аб прыезьдзе Маладняка у Клімавічы прышла, а 4-ай гадзіне у дзень, а 5-ай гадзіне—у клюбе, у вячэрняй школе, на вуліцах сярод моладзі толькі і была гутарка аб Маладнякоуцах.

Спаткаць! Спаткаць!

А 4-ай гадзіне ночы пайсьці і спаткаць—вось чаго хацелі усе.

Цяжка прышлося, але угаварылі і пайшлі ня усе, толькі актыу.

І а чацьвертай гадзіне уночы спатыкалі сваіх Комсамольцау, дарагіх Маладнякоуцау.

* * *

Хто-ж такія Маладнякоуцы?

**Гэта Усебеларускае аб'яднаньне поэтау і пісьменьнікау „МАЛАДНЯК“.**

Учора былі звычайнымі сялянскімі хлапцамі—сеньня передавікі Комсамольцы, сёньня Беларускія Пролетарскія Поэты „Маладняк“ствары у рэвалюцыю у беларускае літаратуры, Маладняк дасьць новае у беларускую літаратуру.

Беларускі „Маладняк“ новае у Беларусі, новае у Комсамоле.

* * *

Комсамольцы Калінішчыны вітаюць прадстаувікоу Маладняка Дубоуку, Вольнага і Александровіча

Вітаюць іх Комсамольцау па Комсамольску, горача, шчыра.

„Маладняк“ 28 лістапада 1924 году, будзе сьвяткаваць першую гадавіну свайго існаваньня.

Роуна год таму назад маладнякоуцау было толькі 7 цяпер ужо больш за 50.

Есьць дзьве філіі у Маскве і Віцебску. Цэнтральная група у Менску.

* * *

Вітаем Маладнякоуцау з іх сьвятам—юбілеем. Маладнякоуцы—ваша справаздача у Калінішчыне—гістарычны факт.

**Наша вам прывітаньне!**

**Няхай жыве Маладняк!**

*Цэйтлін.*

# ПІОНЭРСКІ КУТОК.

Зьмена зьмену рыхтуе сабе:
Піонэр—Комсамол—К. П. Б.

## ДА НАШЫХ СЯБРОУ.

**Дарагія таварышы, пролетарскія, беларускія пісьменьнікі!**

**Не забывайцеся аб нас, піонэрах, аб вашай зьмене. Заглянеце да нас у атрады, ды раскажэце аб Менскіх піонэрах. Азнаемце нас з іх працай— будзеце у нас жаданымі гасьцямі.** *Піонэры.*

---

## ПІОНЭРАМ!

Маладыя таварышы!

Ваш загад выканаем.

Ад Беларускіх поэтау—маладнякоуцау—вам піонэрам наша шчырае, комсамольскае прывітаньне.

Спадзяемся, што праз невялікі час, шмат каго з вас мы убачым здольнымі пясьнярамі Беларусі.

Зьвіні беларуская піонэрыя верхалісьцем сваей песьні!

Маладняцкія дзьверы—табе адчынены!

*Поэты—Маладнякоуцы*

---

## ПІОНЭРАМ.

Нас спавівалі туманам балоты,
сіняя, чорная, шэрая мгла.
Маці хадзіла у двор на работу,
сына ў пасьцілцы на карку нясла.

Нас калыхалі вятры над мяжою,
соукалі сьцюжай іглістай дажджы.
Клён забауляу нас лісьцём масян-
[жовым.
Сэрца малое: дрыжыць і дрыжыць...

І над калыскаю ціха шумела,
гнулася нізка палын—лебяда.
Мы і сьмяяліся, нават, нясьмела;
сьлёзы і сьлёзы, за імі бяда...

Усё адзьвінела, мінула навекі,
больш а-ніколі ня прыйдзе назад.
Высахлі нашых матуляў павекі,
гэй! зашумі над балотам лаза...

Наша Рэспубліка моцную веру
нам прышчапіла у працу людзей.
Дзеці працоўных—усе піонэры;
сіла вялікая з намі ідзе.

І у Бабруйску, і Слуцку, і Менску
Віцебску, ды і на Сожы—агнём,
вогненным морам юнацкая зьмена
Мы—Комсамолу на зьмену ідзём.

Будзем змагацца за лепшую долю,
пойдзем на Захад, паложыма гаць.
Чорных туманаў ня будзе ніколі,
зьнікла навекі з вачэй нашых мгла.

*Ул. Дубоука.*

## БУДУ ПІОНЭР.

Быу дзіце, жыцьця нябачыу,
Стала лепш і ен цяпер—
Гальштук дай мне, няінчай,
Буду добры—піонэр.

Падрасту і у комсамоле
Папрацую—яшчэ як!
Палюбіу я у нас у школе
Комсамолскі маладняк.

А як вырасту, дык сільны
У нашу армію пайду.
Беласток—Гародню—Вільню
Я да Менску прывяду.

Я дзіцё машын, заводу
Працу моцна я люблю.
Каб жылі сяляне узгодзе
Самажнеяк нараблю.

Есьць жа хлопцы, як вароны
То на плошчу, то на сквер.
А мне гальштук дай чырвоны
Буду добры піонэр.

*А. Александровіч.*

---

# НАВУКОВА—ПОПУЛЯРНЫ АДДЗЕЛ.

Комсамолец! ведай свой край!.

## Каротні нарыс гісторыі Беларускае культуры.

Дзякуючы гістарычным акалічнасьцям, Беларусь апынулася на рубяжы ўсходу і Захаду. З аднаго боку, гэта дрэнна адбівалася на яе эканоміцы, з другога-рабіла моцны уплыў на разьвіцьцё культуры. Сапраўды-татарская навала, якая зруйнавала Расію ў XII-XIII ст. ст. дакацілася да абшараў Беларусі, дзе і спынілася. Зразумела, што трэба было патраціць шмат сілы, каб пазбавіцца няпрошаных госьцяў. І усёткі, Слуцак, напр., руйнаваўся татарамі некалькі разоў. Узяўшы далейшую гісторыю Беларусі заўважым больш смутныя часіны: змаганьне Беларуска-Літоўскае дзяржавы з Польшчай, Польшчы з Расіяй, Расіі са швэдамі, французамі; у 1914 годзе з немцамі. У большасьці ўсе гэтыя падзеі адбываліся на нашых абшарах і, зразумела, карысьці ніякай нам не прыносілі. Гэта становішча беларускі народ выявіў у сваёй пагаворцы:

„Жывём як той гарох пры дарозе. Хто ідзе той і скубе“.

Як вядома, праз Беларусь цячэ некалькі вялікіх рэк: Днепр, Нёман, Заходняя Дзьвіна. Ужо да пачатку IX ст. па Дняпру адбываўся вялікі гандаль грэкаў з варагамі. Прыймалі удзел у гэтым і арабскія купцы. Ад усіх іх беларускі народ чаму небудзь ды навучаўся і гэта паступова адбівалася на разьвіцьці нашае культуры.

Возьмем і прагледзім галоўныя моманты гэтага разьвіцьця.

Беларусы, злажыўшыся з трох усходня-славянскіх плямёнау—крывічэй, радзімічэй і дрэгавічэй,—ужо ў пачатку XII стагодзьдзя пачалі жыць самастойным дзяржаўным жыцьцём. Да гэтага далучылася і мова, якая ўжо у тым часе была самастойнай і адлічалася ад расійскай і украінскай.

### У чым самастойнасьць мовы?.

Сучасная навука трымаецца гэткіх поглядаў на пытаньне, аб самастойнасьці мовы. Калі разьвіцьцё той ці іншай мовы, а значыцца калі зьмены фонэтычныя, сынтаксычныя і слоўнікавыя адбываюцца незалежна ад мовы суседніх народаў,—мова зьяўляецца самастойнаю.

Чым беларуская мова розьніцца ад суседніх?.

Па першае, мы маем зусім арыгінальныя гукі—„ў“, „дз“, „дж“, „ць“. Падобны гук да нашага „ў“ ёсьць толькі ў ангельскай мове, які

заначаецца літараю „W“. Ясна што Англія ў гэтым выпадку на нас уплыву ня мела, як ня мелі і мы на яе. Што тычыцца іншых асаблівасьцяў, дык нашы суседзі ўжо даўно іх заўважылі. Украінцы, прыкладам, казалі пра беларусаў.

„білоруса хіба біс озьме, щоб він не дзекнув або не цекнув“.

У адносінах да слоўніку—асаблівасьцяў яшчэ больш. Такія словы як:

прынамсі—по крайней мере,

адылі—однако,

раўгеня—хлебный квас,

брасьнелы, рэзьгіны пушча, шчамлёткі, дзераза і г. д. і г. д. зьяўляюцца выключна беларускімі Сьпіс гэты можна працягнуць да некалькіх тысяч, але я спыняюся на гэтым.

Адначасна, беларуская мова не чуралася і чужых. У выпадку патрэбы яна запазычала у суседзяў тыя ці іншыя словы, як і суседзі запазычалі ў яе. Тагды, калі на Беларусі пачала разьвівацца навука, літаратура, а значыцца у XVI ст.-у нашу мову ўвайшлі словы з латынскае мовы. Прыкладам, „дэклярацыя („Глядзі, глядзі, я табе дакляравала“ у сэнсе „абяцала“); мур, мураваны (лат. мурус-сьцяна), „дыспут“ (Бачыш?-Яна са мною у дыспут бярэцца); „атэістка“-(Яна ці атэістка, ці басурманка якая і г. д.).

З жыдоўскае мовы мы запазычалі словы больш-меньш зьвязаныя з гандлёвымі опэрацыямі—само слова „гандаль“, „гвалт“ і інш. У сваю чаргу і жыдоўская мова запазычыла ад нас многа слоў, напр.—крыніца, хваля.

Усё сказанае толькі падмацоўвае пастаўленае намі пытаньне аб самастойнасьці мовы: калі мы запазычалі тыя ці іншыя словы, дык ня менш запазычалі і у нас

Калі ж мы возьмем дададзем да гэтага сьціслa граматычныя формы, формы дзеясloўныя (глагольные)—ідучы, нясучы, чытаючы: ідзе, нясе, чытае, кажа дык на гэтым можна будзе і спыніцца.

### Як жа адбывалася разьвіцьце нашае мовы?.

Усім вядома, што нават мова аднаго народу розьніцца тымі ці іншымі асаблівасьцямі ў розных кутках. Гэткае зьявішча можна прасачыць і на Беларусі.

Для прыкладу возьмем некалькі слоў. Кажуць у нас „толькі“, кажуць „тольма“ і кажуць „тыкеля“. Сэнс адзін і той самы, вымова розная. Яшчэ прыклады—ёсьць, ё, ёсьцяка, е, ест; няма, нямашака і г. д.

Гэтыя прыклады сьведчаць аб рознакаляровасьці народнае мовы, аб істнаваньні народных гутарак.

Літаратурная мова і злучае (сынтэзуе) ўсе гэтыя гутаркі, выбіраючы з іх найбольш удалыя словы. З показаных прыкладаў у літаратурную мову увайшлі—ёсьць, толькі, няма, а іншыя лічацца паветалізмамі (провінцыялізмамі). Адгэтуль вынікае вялікае значэньне літаратурнае мовы.

Ужо у XII стагодзьдзі пачалі зьяўляцца творы напісаныя, літаратура. Тагды зьявіуся і, гэткі твор, як „Слова аб паходзе Ігара" Але тыя ці іншыя творы паўсюдзіліся вельмі мала, бо іх і было мала. Як вядома перапісваць вялікую кнігу цяжка. Людзі з цягам часу навучыліся друкаваць кнігі машынамі. Беларусы, жывучы бліжэй да Захаду, да Эўропы раней за расійцаў навучыліся друкаваць кнігі. Ужо 8 жніўня 1517 г. беларускі вучоны франьцішак Юрка Скарына (з Полацку), які вучыўся за-граніцай, выдрукаваў першую беларускую кнігу у Празе Чэскай. У 1525 годзе ён пераехау канчаткова на Беларусь, у Вільню, дзе і заснавау першую беларускую друкарню. Гэты год і трэба лічыць пачаткам беларускага друку *).

Кнігі пачалі паусюдзіцца ужо сотнямі і даходзіць да самых глухіх куткоу Беларусі. Зьмест іх рэлігійны Гэта—біблія, апостал, малітвеньнікі і г. д. з боку зьместу яны нас і не цікавяць.

Цікавіць нас толькі мова, якая у іх ужывалася, для параунаваньня з сучаснаю. За гэтымі кнігамі прайшло выданьне Беларуска—Літоускага Статуту (у 1559 г)—накш кажучы збор законау Беларуска-Літоускае дзяржавы.

Выданьні гэтыя, выбіраючы лепшае з народных гаворак (як ужо заувaжалася намі) узбагачалі беларускую мову, аб якой ведалі ува усей Эўропе. Даволі прывесьці гэткі факт.

Татары, якія па запрашэньню беларуска-літоускіх князёу пасяліліся на Беларусі як наёмнае войска,—пачалі забывацца на сваю родную мову, ужываючы беларускую. Іх духоунікі (муллы, малны) баяліся, што татары забудуцца і Аллаху з Магаметам маліцца. Дзеля гэтага, яны пералажылі на беларускую мову свае духоуныя кнігі—Коран і Ай-Кітаб, **) напісаушы беларускія словы арабскімі літарамі.

Некаторыя нашыя вучоныя завуць гэны час-залатой парой беларускае літаратуры.

Але умовы політычна-экономічнага жыцьця Беларусі зьмяніліся. Беларусь з XVI-XVII стагодзьдзя падпадае пад Польшчу. Дзяржаунаю моваю паступова пачынае становіцца польская. Беларуская шляхта таго

часу полёнізуецца. Адно селянства, зацiснутае паншчынаю (крепостным правом), або будучы у экономiчнай залежнасьцi ад паноу не кiдае беларускае мовы, якую пачынаюць зваць „мужыцкай, хамскай, хлопскай“ i г. д.

Такое становiшча цягнецца аж да XIX стагодзьдзя; час жа гэты завецца заняпадам беларускае культуры.

У гэтым часе народ ставарау сам. Стварау ён музыку, песьню, вусную казку i г. д.

## Народная музыка:

Жывучы у цяжкiх экономiчных умовах, у лясох, у балатох—беларускае селянства шукала уласнымi сiламi шляхоу да культурнага жыцьця. Нават цяпер мы можам бачыць дасягненьнi народныя, не скарыстаныя намi у поуным абхваце Так, мала ёсьць на Беларусi такiх вёсак, дзе б мы не пачулi скрыпку, цымбалы, дуду, жалейку, або проста дудку. Дармо, што цымбалы старасьвецкi iнструмант, што на iм гралi яшчэ у Вавiлёне, у Iудэi Мы так сама ужываем цымбалы, бо на iх можна граць ня толькi народныя песьнi, але i музычныя творы сусьветнага значэньня. ***)

## Народная песьня.

I на вясельлi, i на полi за работай, i па пояс у вадзе на балоце—беларус сьпявае. Песьняй ён разважае свой сум, сваё цяжкое жыцьцё, а пры Савецкай Уладзе—гартуе сябе да змаганьня з ворагамi працоуных. У зьвязку з гэтым—у народнай беларускай песьнi мы знойдзем мотывы ад жалобных, мiнорных, да вясёлых, мажорных. Багацьце нашых мэлёдый-нязвычайнае Вучоныя дауно ужо зьвярнулi увагу на беларускую народную песьню, запiсвалi мэлёдыi, гармaнiзавалi iх. Пры Савецкай Уладзе надрукавана ужо некалькi зборнiкау народных песьняу, ****) рыхтуецца да друку зборнiк песьняу, гарманiзаваных выдатнейшымi расейскiмi композыторамi (Грэчанiнау, Iпалiтау-Iванау i iнш.)

## Мастацкая лiтаратура.

Кароткi агляд народнае творчасьцi паказвае нам, наколькi моцныя імкненьнi да культурнага жыцьця, да разьвiцьця культуры праз увесь час былi у беларускiм народзе. Мы сумысьля не спыняемся на аглядзе народных казак, аб якiх яшчэ проф. Сумцоу казау, што яны самыя выдатныя з усiх народных казак сьвету.

Гэта усе зрабiла тае, што у народзе пачалi зьяуляцца поэты, пiсьменьнiкi, ня гледзячы на тое што царскi расiйскi урад забаранiу быу друкаваньне кнiжак па беларуску.

У пачатку XIX ст. зьявіліся творы „Тарас на Парнасе“ і „Энэіда на выварат“—невядомых аутороу, напісаныя жывой роднай мовай. За імі пайшлі пісьменьнікі Баршчэускі, Рыпінскі, Чачот, Дунін-Марцынкевіч. Пісьменьнікі гэтыя пачалі задумавацца над экономічным становішчам беларускага селяніна, але яшчэ нявыразна, слаба, бо гэтыя пісьменьнікі самі паходзілі са шляхты.

За імі прыйшли народнікі—Багушэвіч, Няслухоускі. Голас Багушэвіча пачау гучэць пагрозаю для буржуазнаго ладу. Гэта зауважаецца ясна у зборніках яю вершау—„Дудка беларуская“, „Смык беларускі“, а найбольш у вершах «не цурайся мяне панічок». Разам з гэтымі творамі моладзь Беларусі рыхтавалася да рэволюцыі 1905-га году на творах Ядвігіна ш., Каганца, Цёткі.

1905 год, які ускалыхнуу б. царскую імпэрыю, дау вялікі імпэт да разьвіцьця беларускае культуры. У Вільні пачала выходзіць першая беларуская газэта „Наша Доля“, а затым „Наша Ніва“. Каля газэты згуртавалася моладзь, з шэрагау якой выйшлі такія слауныя пісьменьнікі, як Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі і інш.

Гэтыя пісьменьнікі, узьнялі беларускую літаратуру да Эуропэйскага узроуню. Творы іх перакладаліся на расейскую, польскую, чэскую, нямецкую і італьлянскую мову.

Рэволюцыя 1917 году, Чырвоны Кастрычнік ускалыхнулі Беларусь зьнізу да верху. Шэрагі пісьменьнікау пашырыліся, да іх далучылася моладзь, моладзь рэволюцыйная, комсамольская. Новае жыцьцё, новыя мотывы. Прайшоушы школу грамадзянскай вайны, чырвонай арміі—гэта моладзь загартавалася да змаганьня за мэты, вызначаныя Комуністычнай Партыяй. Міхась Чарот, Вольны, Александровіч, Гурло, Дубоука, Пушча, Дудар, Міхась Зарэцкі і г. д.—вось асноунае ядро, вось актыу новага напрамку у беларускай літаратуры, які прыняу назву „Маладняк“. Будзем жа спадзявацца разам з комсамольскаго маладзьдзю, што разьвіцьцё беларускае культуры, аснауныя рысы якой больш чымся схэматычна зачэпляны у гэтым артыкуле, *****) пойдзе шпаркім тэмпам, выяуляючы новыя і новыя сілы з гушчы рабоча-сялянскіх мас і вядучы нас да перамогі над сусьветнай буржуазіяй.

*Ул. Гайдуковіч.*

---

*) У 1925 годзе уся Беларусь будзе сьвяткавац 400-годовы юбілей беларускага друку, у зьвязку з чым у Менску працуе цэлая камісія.

**) У гэты час расшыфроука гэтых кніг адбываецца у Празе Чэскай і у Ленінградзе.

***) Цымбалы ужо уведзены у аркестр Беларускага Дзяржаунага Тэатру, у недалекім часе будуць скарыстаныя і іншыя.

****) У італьлянскай часопісі за 1923 г. надрукаваны вялікі артыкул аб беларускай поэзіі.

*****) Зборнік Тэраускага, зборнік Равенскага.

# МАЛАДНЯЦКІЯ УСХОДЫ.

Рэвалюцыя прынесла новыя ідэалы ў жыцьцё. Разам са старым парадкам памерла і тухлая мяшчанская далікатнасьць; закрынічыла Рабоча-сялянская прастата і шчырасьць. Зьявілася моладзь новага пакаленьня. Зьявілася новая бытавая ўкладка жыцьця. Старое з кожным днём адыходзіць у нябыт. Як-жа на гэтае адгукнууся «чырвонашчокі Маладняк» ці сумуе ён па старым? О, не! яго вабяць новыя далі, за небасхілам якіх трапеча сэрца рэвалюцыі. „Маладняк" за новы сьвятагляд. «Маладняк» за новае трапятаньня жыцьця. Учытваючыся ў Маладняцкія твары, кожны можа заўважыць, што ў іх праводзіцца і ідэалізацыя рэвалюцыйнага быту.

Прыложым-жа гэты крытэры да некаторых малядняцкіх твораў. Ну, хоць-бы да тых, дзе даецца малюнак першамайскага сьвята У вадным сваім вершы А. Дудар кажа так аб гэтым сьвяце:

„Я і ты сягоньня адно".

Але з большай мастацкай заядласьцю апісывае яго ў плауна—сочных вобразах Н. Чарнушэвіч у сваёй поэме „Маёвы зажын":

Скора утопіцца у чырвані першага маю
Цемра адвечнае ночы;
Губамі халоднай нядолі, зіма
Валасоу твайго твару ня змочыць
І цяпер, калі страхі чмарнае ночы
У шостай часцы у бяздоньне канулі,
Для цябе мой двайнік—сусьветны рабочы,
Майскіх строчак багацьце чаканю. (*Чарнушэвіч*)

Вось для каго Н. Чарнушэвіч складае сваю песьню. Яго двайнік—сусьветны рабочы Ен для яго і чаканіць сваю бунтарскую песьню. У гэтых адносінах трэба поплеч з М Чарнушэвічам паставіць і юнака—комсамольца Ан. Александровіча. Ен так сама свае песьні аквяраваў пралетарыяту. І яго усьвята першага мая цягне пайсьці да сваіх (рабочых) і разам з імі перажыць уцеху гэтага вялікага сьвята.

Па завулках з табой вандравалі,
Да сваіх парашылі ісьці!
Бо заводы так слауна шапталі,
Нібы ветрам віхура у трысьці.
Пасьля змоуклі—пачауся мітынг:
Першы Май заутра—робяць даклад.
Твар рабочых вясною абліты.
—Беларусь, Комсамол,—на парад!

Ну, а нашае новае пакаленьне—зб'яднанае у Комсамол, ці зьяуляецца гэроем маладняцкай песьні? Ці узбударажвацца струны маладняцкай ліры новым Комсамольскім бытам? Ды інакш і быць ня можа. Радасьць Комсамола—радасьць „Маладняка". „Маладняк" поплеч з Комсамолам на шляху соцыяльнай перамогі, з гэтае прычыны і творчасьць „Маладняка" абвеена матывамі аб Комсамоле Маладняцкая песьня разам з Комсамолам на фронце, у падпольлі, разам на дэманстрацыі і разам з нотай „к соунечным прасторам". Дзе Комсамол, там і Маладняцкая песня. Усё-же, што гаварыць гэта Маладняцкая песьня аб Комсамольскай Моладзі? А вось што:

Хто тварэц жыцьця людзкога,  
Волі, шчасьця, пекнаты?  
Хто кладзе к жыцьцю дарогу?  
Ведай моладзь гэта ты. (*Чарот*)

Або успомнім „Комсамолію" М. Чарота  
Хто цэнтрам увгі зьяуляецца гэтай поэмы?  
Комсамольцы у падпольлі і на фронце дзе „Марш Хаугурны ня раз ім пелі", Але не гледячы на гэта.—

Комсамолец—запалены гартам,  
Комсамольцы—бунтарскі дух,  
Адзін кліч—стане новая варта,  
Адзін кліч толькі „Зьмену рыхтуй"

А зараз, после перамогі, за вучобай  
Успамінаюць горда  
Комсамольцы мінулы начлег.

Што-ж яшчэ «Маладняк» увекавечау сваей творчасьці з рэволюцыйна быту? Што яшчэ магло ускудравіць маладняцкую песьню? Чым яна яшчэ можа быць цікавай для рабочага й селяніна Савецкай Беларусі? Каб на гэтае адказаць, трэба успомніць, якую вялікую страту панёс у гэтым годзе наш працоуный народ Пахавау свайго бясьсьмертнага Уладзіміра Ільліча Леніна. Няма таго, хто маячыу першым з правадыроу на небасхіле пралетарскай рэвалюцыі. Вестка аб яго сьмерці ставычна упілася у маладняцкае серца; яно й закрынічыла шчырай песьняй аб гэтым, з поунай верай, што Ленінскіх струн у рэвалюцыі нікому не удасца абарваць.

Не!..  
Не абарваць  
Ніякаму Каіну

Бязьлічна зычных
Ленінскіх
у рэвалюцыі струн. *(Чарнушэвіч)*

Так сама і Ленінскае сонца ніколі для вольных ня зойдзе з камуны высот. Або А. Гурло у сваім вершы «На сьмерць Леніна» так кажа аб ім:

Той не памрэ, кім жыць будзе народ,
Бо цела траціцца, а вечан дух ідэі,
І рух яго бязьмежан з году у год.

Так, «Маладняк» хоць і малады у сваёй творчасьці, але шмат дау творай, якія расхінаюць перад чытачом ідэалізацыю рэвалюцыйнага быту.

„Маладняк"—аб'яднаньне поэтау вёскі і гораду. У ім, як упамінау я вышэй, і падпаскі з сялянскіх харчоу, і маладыя рабочыя шумлівых Менскіх вуліц. Але першых трэба падкрэсьліць, значная большасьць. Горад яшчэ мала дау працаунікоу у маладняцкай поэзіі; хіба толькі аднаго Ан. Александровіча ды на палову А. Дудара. Паглядзім жа зараз, як маладняцкія поэты малююць у сваіх творах веску. Ні так, як старэйшія поэты ці па новаму? Вядома, што па другому. Ня упамінаецца: „Янка ды Сымонка" з птушкамі „дрозд ды гусь", а так сама ня знайдзем „гразь, болота ды пясок" Замест гэтага у маладняцкай песьні гаворыцца, што

Плаксівую смугу
Памялом зьмяло—
І промень сонца па шляху
Пабег у сутулае сяло.
З сявенькай працы на плячах
Хатай спаткау яго.
Уцеха хлынула з вачэй
І гойснула у сінь бягом. *(Я. Пушча)*

Веска называецца буянай, у якой і песьня чуецца на новы лад:

Бедняк—буянай вескі сын—у полі,
Дзе шуміць калосьсе,
Ня уздыхае болей
Нудным сугалосьсем. *(Я. Пушча)*

Ня толькі гэтак малюе вёску (*Я. Пушча*). Тое самае—новае можам чытаць і у вершах іншых маладнякоуцау.

Апісаньне гораду з яго дынамікай—матыу зусім новы у беларускай поэзіі, але «Маладняк» і у гэтым спробавау сваі сілы. Так А. Александровіч першы дау апісаньне Менску. Вось, маленькі пріклад, яго вершу «Новы Менск».

Вечны гул ня спыняе лізаць камяніцы.
Вочы глытаюць рэклямы вітрын.
Гадзіньнік на Менскай званіцы
Б'е глухім звонам дванаццаць гадзін. (*А. Александровіч*)

І так—маладняцкая ліра хоча назауседы развітацца з сьлезнаю песьняй, якая даволі намазоліла вушы беларусу у асобах старэйшых нашых паэтау. Зараз Беларусь жыве у новую эпоху „На зары квітнеючых дзен", то зразумела, што і ня можа быць мейсца у поэзіі слезам. Гэта засталося пазадзе маладнякоуцау. Але каб больш у гэтым пераканацца, то зьвернемся да тэй часткі маладняцкай творчасьці, дзе гэта больш выпуклена.

Зьвернемся да тых творау, якія раскрываюць перад намі інтымныя пераживаньні маладняцкай душы. Зьвернемся да тых песьняу, у якіх выпуклены малядняцкі суб'ектывізм, дзе маладнякоуцы паустаюць перад намі, як поэты індувідуалісты То побачыма, што у кожнага з іх у грудзех жыве бурлівы комсамольскі запал, які і заклікае пяяць вясёлую песьню.

Ой, ці-ж спыніж такога бурлівага,
Калі вір у грудзёх яго,
Калі сэрца вульканіць прылівам,
Калі у прысядкі сэрца пайшло?!.. (*А. Вольны*).

Або у вершы А. Дудара „Я малады" чытаем:

Што-ж рабіць, калі фарбы раніцы
У грудзех завялі карагод,
Што-ж рабіць, калі кроу барабаніць—
Заклікае ісьці у паход?

Гэтая маладняцкая разухабістасьць дасягае у вершы А. Александровіча свайго кульмінацыйнага пункту. Ен грозіцца нават на сонца, з якім гатоу у „бойку".

Ведай толькі, кажу я ня сьмехам,
Лепш ня суньзя са мной на нажы

Так гэта шчырая радасьць, шчырая разухабістасьць; яна не фальшывая, бо вырываецца з самой глыбіні душы.

У гэтым ключ далейшага росквіту маладняцкай творчасьці.

*Я. Пушча.*

# Плян правядзеньня юбілею Л.К.С.М.Б.

## Падрыхтоука да юбілею.

1. Першага сьнежня, на занятках местачковых прапкалектывау, распрацаваць пытаньне а задачах юбілею й практычны плян правядзеньня яго у мястэчках.

2. Пятага сьнежня правясьці занягкі Районных прапкалектывау, на каторых распрацаваць:

а) становішча Беларускага Комсамола.

б) плян правядзеньня юбілею у районе (больш распрацаваць момант правядзеньня кампаніі у весцы).

3. Шостага сьнежня у мястэчках, семага у весках—на саюзных днех, разабраць пытаньні:

а) Беларуская арганізацыя, яе гісторыя й становішча.

б) плян правядзеньня юбілею у даным пункце.

На гэтым-жа саюзным дні неабходна разьмеркаваць сярод комсамольцау заданьні па правядзеньню юбілею, так каб было уцягнута у працу як можна болей товарышоу.

4. Зараз-жа, пасьля распрацоукі пытаньняу юбілею у прапкалектывах. поруч з перанясеньнем парады яго. на камсамольскія ячэйкі, неабходна пачаць распрацоуку яго сярод піонэрау, праз:

а) распрацоукі пляну удзелу піонэрау у кампаніі,

б) распрацоуку сярод іх гісторыі Л. К. С. М. Б.

в) распрацоуку гісторыі дзіцячага руху Беларусі.

5. Паставіць пытаньне аб юбілеі Л. К. С. М. Б. і гісторыі мясцовай ячэйкі на партдні.

6. *З 7-га па 9-га правясьці*:

а) сход рабочай моладзі,

б) дні сялянскай моладзі,

в) дні сялянскай дзяучыны.

Распрацавaушы з імі пытаньне аб гісторыі й становішчы Л.К.С.М.Б.

7. 14-га правясьці районыя конфэрэнцыі батрацкай моладзі, з павесткай дню:

1) аб юбілеі Л.К.С.М.Б.

2) зімовая праца сярод батрацтва.

8. На профднех і, галоуным чынам, на настауніцкіх канфэрэнцыях, каторыя будуць адбывацца з 1-га па 15-га сьнежня—паставіць пытаньне аб юбілеі Л.К.С.М.Б. На апошніх ставяцца два даклады: комсамол, піонэры й настауніцтва і аб юбілеі.

9. У местачковых і вясковых клюбах перед сьвятам, правясьці наступныя лекцыі:

а) гісторыя Компартыі Беларусі

б) гісторыя Беларускага Комсамола

в) становішча сялянства заходняй Беларусі і комсамольскі рух.

Усе гэтыя лекцыі якія правадзіліся у клюбах і хатах—чытальнях, павінны шырока афішыравацца, шляхам вывескі спэцыяльных плякатау—абвестак.

10. Акруговаму камітэту К.С.М, выпусьціць адозвы і лезунгі ячэйкам—насьценныя газэты, пасьвячоныя юбілею.

11. Ячэйкам заняцца укладаньнем сваё гісторыі, катора павінна быць добра растлумачана перед масамі рабоча—сялянскай моладзі, у час кампавіі. Гэту гісторыю па аднаму экзэмпляру неабходна паслаць у Акружкамол і ЦК. Л.К.С.М.Б.

12. У вечар, 14 сьнежня пачынаецца сьвята. К гэтаму тэрміну неабходна.

а) убраць аркамі горад і, асабліва, камсамольскія вуліцы

б) як у сярэдзіне, так і з надворку убраць клюб Л.К С М Б.

(Лёзунгі юбілею, павінны пісацца па беларуску і памагчымасьці на іншых дзяржауных мовах Беларусі).

13 Сьвята павінна уваісьці у быт рабочай і сялянскай моладзі. Комсамольцы павінны паклапаціцца убраць свае дамы, самім адзецца пасьвяточному.

Пажадана каб гэта самае зрабіла і беспартыйная моладзь.

14 14—увечар, арганізоваюцца вячары па школах, вечары рабочай моладзі

У Клімавічах—па адзельным ячэйкам К.С.М. у горадзе й у тых пунктах, дзе маецца некалькі школ, а 12 гадзіне ночы прапануецца усім сабрацца у адным пункце, пры чым кожная школа і ячэйка павінна падрыхтаваць што небудзь самабытнае: шэсьцьвіе убраных, зьзяюшчыя значкі КІМ, сьвятавыя лёзунгі і г. д. на зборы адбываецца мітынг (к правядзеньню апошняга моманта подыходзьце асьцярожна).

15. Пятнаццатага, з раньня—дэманстрацыя, увечар—урачыстае пасяджэньне, з спэктаклямі і г. д.

Буйныя местачковыя ячэйкі, на урачыстае пасяджэньня 15-га, павінны прыцягнуць сялянскую моладзь, падшэфных вёсак.

*Калінінскі Акружкамол.*

### Лезунгі да юбілею Л. К. С. М Б:

1) Кожны комсамолец павінен знаць гісторыю свае арганізацыі. На традыцыях па гісторыі комсамола, комсамольскі маладняк павінен падрыхтоувацца да надходзячых бояк.

2) Комсамол, які гатуе зьмену компартыі, павінен ведаць вопыты бальшавіцкай барацьбы. За вывучэньне традыцыяу, гісторыі,—Комсамолія.

3) Уся рабочая, батрацкая моладзь, моладзь сялянскай беднаты—усе у рады Л.К.С.М.Б.

4) Дзяучына батрачка—беднячка, тваё месца у радох комсамола.

5) Моладзь заходняй Беларусі, Комсамол Беларусі Савецкай рыхтуйцеся стаць Усебеларускім Комсамолам.

6) Комсамольцы, болей увагі узброенаму саюзу моладзі—Чырвонай Арміі і яе зьмене—допрызыунікам.

7) Комсамолец, пролетарская моладзь Беларусі, у дзень юбілею Л К.С.М.Б. памятай пра падшэфнае наша судно, «*Царыская Комуна*»

8) Юныя піонэры—дзеці Кастрычніка, узмацняйце, пашырайце свае рады заваюйце дзетвару вёскі, падрыхтоувайце зьмену Л.К.С.М.Б.

## „Маладняк“ у Калінінскай акрузе.

21-га лістапада сябры „Маладняку“ Александровіч і Дубоука, а так сама артысты БДАТ т. Жыдовіч і сябра Акружкамола т. Цэйтлін прыехалі у Чэрыкау і Крычау. Ня гледзячы на позьні час Комсамольцы, піонэры, настаунііцтва, а часткаю і сябры КПБ зыйшліся сустракаць, вітаць; паслухаць сваіх поэтау.

Мы прыехалі рабіць вам справаздачу і атрымаць дырэктывы на далейшы час—казалі Маладняцкоуцы.

Мы знаходзім у вашых творах блізкія, родныя нам мотывы, Комсамольска—юнацкія мотывы—казалі Косамольцы, казалі піонэры.

Са сваіх шэрагау мы вылучым новых поэтау, новых пісьменьнікау, бо шмат надзвычайных сіл, надзвычайных талентау трымае і гадуе у сабе рабоча-сялянская Беларусь.

Мы пераканаліся, што на беларускай мове можна выяуляць усе нашы імкненьні, усе нашы новыя дзеі і рытмы. А старасьвецкі інструмант—цымбалы—прайграе нам ня толькі народныя песьні, а і новыя—комсамольскія.

Прыезд Маладнякоуцау ускалыхнуу глухі наш кутох, дау імпэт і гарачае жаданьне да вывучэньня Беларусі, роднае мовы.

Хай—жа гэта ажыцьцявіцца!.

# ЖАНОЧЫ РУХ.

## Калінінскай Акругі.

Нядауна два дні таму назад адсьвяткавалі шостую гадавіну істнаваньня жанаддзелу. Шмат мы гутарылі аб жаночым руху на усім сьвеце, гаварылі аб працы сярод сялянак, адзначалі вялікі удзел і дапамогу у жаночым руху, наогул і Калініскай Акрузе у асобку ад Комсамольцау, але забылі адну справу, аб якой я хачу выказать сваю думку. Гэта, аб падходзе да працы сярод сялянак.

Тут прыдзецца зьвярнуцца к нацыянальнай палітыцы, аб якой гаворать усе, але маучаць жанчыны. Пастановы Компартыі у гэтым пытаньні вельмы ясны і цьверды, але яны чамусь-ці не чапаюць жаночага руху, тут гэту справу абходзяць кругом да навокала, а я зычу, узяцца за справу не нарокам, а цьверда, як нам кажа Компартыя і павесьці працу сярод Беларускіх сялянак на іх народнай штодзеннай мове—мове беларускай.

На шостую гадавіну мы дасягнулі вынікау у колькасьці працауніц сярод жанчын, летась дэлегатак на увесь павет было зусім мала лічым 10, а цяпер іх больш, у адным районе, лічым сотнямі а іх дзесяць, гэта вынік добры, ды ён яшчэ расьце і узмацняецца. Калі павядзём працу на роднай—беларускай мове, а гэта трэба зрабіць, толькі не па заказу, казеншчынай, а з нутраным пачуцьцем і так, як зычыць Камуністычная Партыя, то напэуна заваюем і замацуем вёску і наладзім нашы жаночыя сравы так, як ні у аднэй стране капіталу яшчэ не наладжаны.

*Аніхоуская*

# ЗЬМЕСТ.



Працаунікам друкарні:

Кавалям мастацкага слова—наборшчыкам, на чале з т. М А. Кагановым і друкарам на чале з т. В. М. Штэйнам і Загадчыку друкарні т. І. В. Упніку, за уважліва-тэрміновую працу—наша Комсамольскае Дзякуй!.

*Калінінскі Акружком Л.К.С.М.Б.*

*І ад „Маладняку"* { *А. Александровіч.* *Ул. Дубоука.*

Калінінская друкарня ф. № 281 (Акругліт № 125 22/XI-24 г. 1.600 экз.